Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 2 сакавіка 1999 г. № 23 (554) Кошт свабодны

## Ганчара арыштавалі

**Учора ў Мінску супрацоўнікі міліцыі арыштавалі старшыню ЦВК Віктара Ганчара.**

Прыкладна а палове другой В.Ганчар прыпаркаваў аўтамабіль на вуліцы Кісялёва. У гэты момант да машыны падышлі тры міліцыянты і папрасілі старшыню ЦВК выйсці. Віктар Ганчар паспрабаваў праехаць наперад, аднак дарогу перакрылі каля шасці міліцэйскіх машын. Стражы парадку выбілі шкло ў аўтамабілі, выцягнулі Ганчара нарэжу. Старшыню ЦВК пасадзілі ў чорную «Волгу» і звезлі ў Ленінскі райсуд. За парушэнне парадку правядзення сходаў В.Ганчар асуджаны на 10 сутак.

**А.Д.**

## Цэнтрвыбаркам прыехаў у суд

**Суд над Цэнтральнай выбарчай камісіяй на чале з Віктарам Ганчаром быў прызначаны на ўчарашні дзень. Зрэшты, усе члены Цэнтрвыбаркама вырашылі на судовае паседжанне не з'яўляцца. Але пасля арышту свайго старшыні ўсе члены ЦВК самі прыехалі ў Ленінскі суд, дзе распачаліся працэсы. На момант падпісання нумара ў друк лёс членаў ЦВК заставаўся невядомым.**

Як мы паведамлялі ў мінулым нумары, у чацвер група амонаўцаў уварвалася ў мінскае кафэ «Калізей», дзе ў найлепшых рэвалюцыйных традыцыях сабраўся Цэнтрвыбаркам. Амонаўцы затрымалі ўсіх удзельнікаў паседжання і даставілі іх у гарадскі аддзел міліцыі.

Членаў Цэнтрвыбаркама адпусцілі праз 5 гадзінаў. Цяпер ім інкрымінуецца *«парушэнне парадку правядзення сходаў»*. Няясна, праўда, на якой падставе: нават нашыя сучасныя законы пакуль што не забараняюць грамадзянам збірацца ў кафэ і абмяркоўваць усё, што яны хочуць.

Перад «рэферэндумам» увосень 1996 г., як вядома, Лукашэнка ўласным указам зняў з пасады старшыню Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара, хаця і не меў на гэта абсалютна ніякага права. Сілаю міліцыі Ганчар быў выдвараны са свайго службовага кабінета. Пасля Цэнтрвыбаркам, ужо паслухмяны Лукашэнку, выдаў патрэбныя вынікі «рэферэндуму», якія і дагэтуль не прызнаныя ўсім цывілізаваным светам.

Аляксандр Лукашэнка абіраўся ў прэзідэнты на 5-гадовы тэрмін, які хутка скончыцца. У адпаведнасці з гэтым, Вярхоўны Савет прызначыў чарговыя прэзідэнцкія выбары на 16 траўня г.г. Гэтыя выбары рыхтуе Цэнтрвыбаркам пад кіраўніцтвам законнага старшыні В.Ганчара. На сённяшні дзень амаль ва ўсіх раёнах Беларусі створаныя тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Заява з Вашынгтона

**Намеснік прэс-сакратара дзяржэпартамента ЗША Джэймс Фоўлі зрабіў заяву ў сувязі з арыштам 25 лютага старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара і яшчэ 14 членаў выбарчай камісіі.**

Дзяржэпартамент заклікаў беларускае кіраўніцтва пачаць разам з дэмакратычнай апазіцыяй пошук выйсця з працяглага канстытуцыйнага крызісу. Па словах Джэймса Фоўлі, *«канстытуцыйныя разыходжанні — гэта прамы вынік незаконнага рэферэндуму 1996 года»*. Беларускі Канстытуцыйны суд прызнаў гэты рэферэндум неканстытуцыйным, а Злучаныя Штаты, Еўрапейскі саюз, АБСЕ і Парламенцкая асамблея, а таксама большая частка міжнароднай супольнасці не прызналі яго вынікаў.

*«Аднак прэзідэнт Лукашэнка выкарыстаў рэферэндум для пашырэння сваіх паўнамоцтваў і падаўжэння яшчэ на два гады свайго знаходжання на пасадзе,* — гаворыцца далей у заяве. — *Беларусь можа вырашыць канстытуцыйны крызіс шляхам усталявання дэмакратычнага працэсу, у якім змаглі б узяць удзел усе элементы грамадства, уключаючы апазіцыю»*. Па словах прадстаўніка дзяржэпартамента ЗША, добрым пачаткам можа стаць перагляд заканадаўства аб выбарах мясцовых органаў улады ў адпаведнасці з рэкамендацыямі місіі АБСЕ ў Мінску. Але ж на працягу года кіраўніцтва Беларусі ігнаравала заканадаўчую ініцыятыву місіі АБСЕ і спробы па наладжванні дыялогу.

## Першае пажыццёвае зняволенне

**Упершыню ў сваёй практыцы Магілёўскі абласны суд вынес прыгавор у выглядзе пажыццёвага зняволення 33-гадоваму жыхару горада Горкі Андрэю Дзянісаву.**

У верасні мінулага года ён забіў сваю знаёмую — адвёз дзяўчыну ў лес, задушыў электрычным провадам і кінуў труп у лесе. Прычынай для забойства стала тое, што А.Дзянісаў пазычыў у ахвяры 200 долараў ЗША і не хацеў аддаваць.

*БелаПАН*

## У Мінску за барацьбу з фашызмам саджаюць

Мінулай суботай дэмакраты калектыўна змагаліся з фашызмам. Змаганне было мірным, аднак па віне мінскіх уладаў сярод антыфашыстаў ёсць арыштаваныя.

Акцыя «Раздавім фашысцкую гадзіну» рыхтавалася не толькі як адказ на актывізацыю прафашысцкіх элементаў у Мінску. Без падтрымкі ўладаў фашысты не адчувалі б сябе ў сталіцы Беларусі гэтак утульна, таму зразумела, што «давіць» трэба не толькі фашысцкія мікробы, але і бацылы хітрадумства ў нашых бюракратаў, якія на самой справе звычайныя дурні. Бо калі некаторыя з іх спадзяюцца ўмацаваць сваю ўладу рукамі карычневых, яны глыбока памыляюцца: сёння рукі фашыстаў трымаюць чыноўнікаў у сяброўскіх абдымках, а заўтра возьмуць за шыю. Не пусціць карычневых да ўлады можна толькі разам і рашуча. А што робіць замест гэтага гарадская ўлада?

«Хартыя-97», «Вясна-96», Беларускі Хельсінкскі камітэт заяўляюць у гарвыканкаме антыфашысцкае шэсце, а мінскія кіраўнікі не даюць дазволу на праход калоны па праезнай частцы. Памесціцеся на тратуары, — здзекліва заяўляюць чыноўнікі.

Пачалося шэсце. Калона з 5 тысяч чалавек дзеліцца на два патокі, адзін з якіх ідзе па правай паласе праезнай часткі праспекта, бо ўсім на тратуары не хапае месца за снежных сумётаў, а міліцыя дзяўбе сваё: «У адпаведнасці з рашэннем гарвыканкама дазволена ісці толькі па тратуарах...»



IREX/PROMedia

Ідзе мітынг. Прамоўцы заклікаюць да пільнасці ў сувязі з наступам фашызму. На мітынгу Сямён Шарэцкі, Андрэй Саннікаў, Таццяна Процька, шмат палітыкаў і звычайных грамадзянаў. Журналістка Ірына Халіп трымае ў руках сцяг Ізраіля. Сярод бел-чырвона-белых гэтае блакітна-белае палотнішча — яе позірк у нашую гісторыю, у якой беларусы і габрэі столькі жылі разам, і столькі нацярпеліся. У тым ліку і ад фашыстаў. Аднак нешта не бачна на антыфашысцкай акцыі ні палітычна нейтральнага Ярмошына, ні чырвонага Чыкіна, ні палкоўніка Посахава, ні публіцыста Якубовіча. Можа, яны недзе на іншых пляцоўках мітынгуюць супраць карычневых, але дзе, калі? Хай паведаміць «Советская Белоруссия».

Наўрад ці паведаміць. Як і пра тое, што пасля суботняй акцыі былі затрыманыя каля дзесятка яе ўдзельнікаў: Зміцер Бандарэнка, Алесь Бяляцкі, Валерый Костка, Васіль Пашковіч, Уладзімір Руснак ды іншыя. Іх пачалі судзіць у панядзелак, таму вынікі судоў нам яшчэ невядомыя. Але не менш цікава, як іх затрымлівалі. Васіля Пашковіча схапілі на Нямізе і закінулі ў варанок. Яго вазілі па горадзе, пакуль міліцыянты не набралі патрэбную колькасць затрыманых, і Васіль Міхайлавіч чуў на свае вушы па рацыі: «Без грузу не вяртацца». Хто ведае, як фашысты называлі габрэяў, якіх тысячамі везлі з Еўропы ў Трасцянецкі канцлагер, каб потым ператварыць у попел? Хіба не тым самым словам — «груз»?

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

***P.S.** Калі нумар ужо быў падрыхтаваны, прыйшлі звесткі з «Вясны-96». Алесь Бяляцкі атрымаў за арганізацыю антыфашысцкай акцыі 10 сутак арышту, суды над астатнімі затрыманымі адкладзеныя.*

## «Газпром» нагадвае пра даўгі

Падчас сустрэчы прэзідэнта Лукашэнкі з расійскім прэм'ер-міністрам Яўгенам Прымаковым у Маскве абмяркоўвалася праблема запазычанасці Беларусі расійскаму «Газпрому». Цяпер доўг за газ перавысіў 230 мільёнаў долараў ЗША. Прэзідэнт Лукашэнка просіць знізіць цэны на пастаўкі энергарэсурсаў да ўзроўню ўнутрырасійскіх.

З сярэдзіны лютага пастаўкі газу на Беларусь паменшыліся амаль на 30 працэнтаў. Гэта будзе працягвацца, калі беларускі ўрад не знойдзе грошай і не падпіша адпаведнае пагадненне аб пастаўках. Расійскі бок не зацікаўлены зніжаць цэны на газ для Беларусі, бо ўсе падаткі з экспартнай выручкі «Газпрома» закладзеныя ў федэральны бюджэт Расіі. Акрамя таго, не завершаная рэструктурызацыя запазычанасці за леташнія пастаўкі газу ў нашую краіну.

**М.В.**

## Сутычка ў Гродне

**У мінулую пятніцу ўвечары ў Гродне адбылася сутычка паміж антыфашысцкай моладдзю і прафашыстамі.**

У мясцовай сядзібе БНФ сабраўся маладзёжны антыфашысцкі камітэт. Нехта паведаміў, што ў цэнтры горада заўважылі малойчыкаў з РНЕ. Некалькі чалавек накіраваліся на Савецкую плошчу і прывялі аднаго з іх. Пасля прафілактычнай гутаркі «РНЕшніка» адпусцілі. Аднак неўзабаве ў памяшканне ўварваліся каля 15 чалавек у чорных куртках, з голенымі галовамі і ўчынілі бойку. Атрымаўшы годны адпор, яны сышлі, але пабілі ў вокнах шыбы.

Па сведчаннях відавочцаў, адзін з нападнікаў быў у чорнай форме РНЕ, меў яе эмблему — рускую свастыку — на берэце і адпаведны шаўрон на рукаве. Астатнія, праўдападобна, з'яўляліся прадстаўнікамі прафашысцкай групоўкі «скіноў».

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Да пабачэння, спадарыня Пірс

**Учора ў мінскім кафэ «Меркурый» пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс наладзіла развітальны прыём, на які было запрошана 250 гасцей.**

Перад ад'ездам Джэсіка Пірс пабывае на аўдыенцыі ў прэм'ер-міністра Сяргея Лінга. Трэцяга сакавіка спадарыня Пірс адлятае ў Лондан.

Джэсіка Пірс была прызначаная паслом у Беларусі тры гады таму і цяпер, пасля заканчэння паўнамоцтваў, вяртаецца дадому. Хутчэй за ўсё, яна будзе далей працаваць ва ўсходне-еўрапейскім аддзеле брытанскага знешнепалітычнага ведамства.

**А.Д.**

## Пенсіянеры звялі рахункі з жыццём

**У Магілёве здарылася жахлівае здарэнне. Павесіліся муж і жонка, абое пенсіянеры.**

Нябожчыкі перад смерцю пакінулі запіску, у якой паведамілі, што ў іх няма грошай на лекі, жыццё надта дарагое. Яны не захацелі быць цяжарам для сваіх дзяцей і папрасілі ў сваёй смерці нікога не вінаваціць. Перад смерцю бацька патэлефанаваў сыну і папрасіў, каб той прыехаў памыць іх.

Трэба адзначыць, што памер іхніх пенсій не быў мінімальны. Галава сям'і, былы маёр КДБ, працягваў працаваць і, выйшаўшы на пенсію, працавала таксама ягоная жонка. Але самая вялікая пенсія сёння крыху больш за 7 мільёнаў, і што рабіць, калі тыя ж медыкаменты для сардэчнікаў каштуюць па некалькі мільёнаў рублёў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Міхаіл Чыгір: «Адхіліць Лукашэнку ад улады — рэальна»

**Першы дзень вясны быў аздоблены (у палітычным сэнсе) прэс-канферэнцыяй аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах, што прызначаныя Вярхоўным Саветам на 16 траўня — былога прэм'ера Міхаіла Чыгіра.**



М.Чыгір ахарактарызаваў эканамічную сітуацыю ў краіне як «катастрафічную». *«Зараз улады спрабуюць атрымаць крэдыт МВФ, што дало б магчымасць выправіць сітуацыю, — адзначыў экс-прэм'ер, — але ў дадзеных умовах ніякія крэдыты проста немагчымыя».*

На думку Чыгіра, *«эканамічнае становішча будзе стымулам для таго, каб грамадзяне ўдзельнічалі ў выбарах».* М.Чыгір упэўнены, што выбарчая актыўнасць будзе высокай не толькі ў гарадах, але і ў вёсках. *«У сельскай гаспадарцы — калясальнае падзенне вытворчасці»,* — зазначыў былы прэм'ер. Па яго словах, шмат хто і са старшыняў калгасаў і з «вертыкальшчыкаў» настроеныя супраць цяперашняга рэжыму; *«проста пакуль што яны не могуць выступіць адкрыта — але ў хуткім часе гэта здарыцца, людзі відавочна разнявольваюцца».*

*«Калі рэжым пяройдзе да масавых рэпрэсіяў, гэта толькі значна паскорыць яго крах,* — перакананы М.Чыгір. — *Тым больш у сітуацыі, калі эканоміка знаходзіцца ў найцяжэйшым стане».*

На пытанне, у чым адрозненне ягонай пазіцыі ад падыходаў асноўнага канкурэнта — старшыні БНФ Зянона Пазьняка, — Міхаіл Чыгір адказаў, што ён супраць фарсіравання працэсу беларусізацыі, а таксама інакш ставіцца да пытання эканамічнай інтэграцыі з Расіяй. *«Знешнеэканамічная дзейнасць павінна быць шматвектарнай, і нам трэба адразу ж актыўна працаваць на заходнім напрамку — але ў бліжэйшай перспектыве глыбіня эканамічных стасункаў з Расіяй павінна быць значнай і істотнай»,* — лічыць М.Чыгір.

Калі ў былога прэм'ера запыталіся, наколькі рэальна, калі нават ён пераможа на выбарах, адхіліць Лукашэнку ад улады, — Міхаіл Чыгір адказаў, што гэта цалкам рэальна, толькі пакуль што ён не хоча распавядаць пра канкрэтныя механізмы.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Лібералам не дазволілі сабрацца ў Мінску

**У мінулыя выхадныя прайшоў IV з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Упершыню ўлады не дазволілі правесці партыйны з'езд у Мінску.**

143 дэлегаты з усёй краіны сабраліся ў пасёлку Ратамка, у зале паседжанняў конна-спартыўнага комплексу. Дарэчы, афіцыйнай эмблемаю беларускіх лібералаў з'яўляецца чырвоны конь на белым фоне — такім чынам, нейкая гармонія ў гэтым ёсць. *«Тое, што з'езд праходзіць тут — паказчык небяспекі вашай партыі для рэжыму»,* — зазначыў намеснік старшыні БНФ Юрась Беленькі.

У сваім справаздачным дакладзе старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч ахарактарызаваў Лукашэнку як *«кіраўніка ніжэй сярэдняга ўзроўню. Лукашэнка — тыповы дырэктар саўгаса, якіх у нашай краіне некалькі тысяч».* З-за палітыкі, якую праводзіць Лукашэнка, Беларусь атрымлівае інвестыцыяў менш за ўсіх у Еўропе. Апроч таго, па словах С.Багданкевіча, *«лукашэнкаўская Беларусь ператваралася ў рупар самых рэакцыйных і цемрашальных сілаў Расіі».*

С.Багданкевіч падкрэсліў, што *«нашая галоўная задача — у мэтанакіраванай рабоце па абароне правоў чалавека, незалежна ад яго нацыянальнай прыналежнасці і ад таго, на якой мове ён размаўляе».* Сферы, якімі кіруе і ў якія мяшаецца дзяржава, з ліберальнага пункту гледжання, павінны быць мінімізаваныя.

Спецыяльная рэзалюцыя была прысвечаная падтрымцы рашэння Вярхоўнага Савета аб прэзідэнцкіх выбарах. Паколькі Г.Карпенка заявіў, што не будзе балатавацца, *«АГП устрымліваецца ад вылучэння свайго кандыдата і рэкамендуе рэгіянальным арганізацыям падтрымаць дэмакратычных кандыдатаў і ўзяць актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі».*

Істотных кадравых зменаў у кіраўніцтве партыі не адбылося. Старшынёй АГП зноў абраны Станіслаў Багданкевіч.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Пра Беларусь зноў пішуць

*«Праваакцыйныя арышт, ці крык аб дапамозе. Лукашэнка нацкоўвае КДБ на шыю дэмакратычнай апазіцыі»,* — пад такім загалоўкам вядомая нямецкая газета *Frankfurter Rundschau* паведамляе пра затрыманне членаў Цэнтрвыбаркама ў Мінску. Газета піша што *«апазіцыйныя палітыкі дасягнулі мэты: улада адрэагавала канкрэтнай акцыяй». «Канфлікту паміж дыктатарам прэзідэнтам Лукашэнкам і апазіцыяй, які цягнецца каля трох гадоў, ужо амаль не надавалі ўвагі за мяжой, аднак арышт сіламі КДБ 15 палітыкаў можа памяняць сітуацыю». Frankfurter Run-dschau* нагадвае, што, паводле Канстытуцыі 1994 года, сёлета заканчваецца прэзідэнцкія паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі, які змяніў Канстытуцыю для пашырэння сваіх дыктатарскіх паўнамоцтваў і распусціў легітымна абраны парламент. 40 дэпутатаў адмовіліся ўвайсці ва ўтвораны прэзідэнтам палаты і сталі ядром беларускай апазіцыі, якая заснавала камісію па выбарах прэзідэнта, прызначаных на 16 траўня гэтага года.

**А.Д.**

# Скралі перапісныя лісты

**Перапіс насельніцтва ў Брэсцкай вобласці не абышоўся без непрыемных нечаканасцяў.**

Дзве тысячы спецыяльна падрыхтаваных лічыльнікаў захварэлі грыпам і не змаглі працаваць. Давялося тэрмінова шукаць ім замену. Нямала клопату ўдзельнікам перапіснай кампаніі даставілі грамадзяне, якія не жадалі адчыняць дзверы свайго жылля. Сур'ёзным здарэннем стаў таксама крадзёж 250 перапісных бланкаў у адной з лічыльніцаў у Баранавічах. У міліцыі жанчына паведаміла, што партфель у яе вырвалі два малалетнія хуліганы. Праз дзень пусты партфель знайшлі ў харчовай краме, а злодзеяў шукае міліцыя.

Як паведаміла начальнік аддзела перапісу Брэсцкага абласнога ўпраўлення статыстыкі Ніна Ласковіч, у астатнім кампанія на Брэстчыне прайшла паспяхова. Асноўныя яе вынікі будуць вядомыя да лістапада 1999 года, а поўную інфармацыю статыстыкі будуць мець да кастрычніка 2000 года.

*БелаПАН*

# Штрафуюць з камфортам

**Новую «паслугу» ўвялі мытнікі ў Касцюковіцкім раёне Магілёўскай вобласці.**

На памежнай чыгуначнай станцыі Бялынкавічы мытнікі ўжо даўно затрымліваюць чаўнакоў, што вязуць у Расію танныя беларускія прадукты на продаж. Цяпер іх саджаюць у спецыяльны аўтобус і вязуць у райцэнтр. Там спаганяюць штраф, у памер якога ўваходзяць і «транспартныя паслугі», ацэненыя прыкладна ў 50 тысяч рублёў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Бывайце, «зубрыкі» і «плошчы»...

**Як паведамілі нам ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка Беларусі, з 1 чэрвеня гэтага года спыняецца хаджэнне беларускіх банкнотаў па 100, 200 і 500 рублёў. Такое рашэнне прыняў Савет дырэктараў Нацбанка ў сувязі з нямэтазгоднасцю іх абарачэння.**

«Гэта ж проста лішнія грошы, за іх нічога нельга набыць, таму яны толькі ўскладнялі працу бухгалтарам і банкам», — так пракаментаваў рашэнне супрацоўнік упраўлення інфармацыі галоўнага банка краіны. Па ягоных словах, у Нацбанку не падлічвалі, колькі менавіта беларускіх рублёў дробных наміналаў будзе выведзена з абарачэння, але «гэта будзе зусім невялікая сума».

Ужо з 1 красавіка 100-, 200- і 500-рублёвыя банкноты не будуць выпускацца ў абарачэнне. Гэта значыць, што імі яшчэ можна будзе разлічвацца ў крамах альбо здаваць іх у банк, але банк ці крама не будуць мець права выдаць іх вам на рукі. Адначасова з 1 красавіка міністэрства эканомікі правядзе акругленне да тысячаў рублёў рознічных цэнаў на харчовыя і нехарчовыя тавары, а таксама тарыфаў на паслугі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# За літоўскую энергію можна не плаціць?

**На гэтым тыдні ўрад Літвы будзе вырашаць, ці скарачаць пастаўкі электраэнергіі ў Беларусь. Аднак у канцэрне «Белэнерга», які закупляе энергію для Беларусі, упэўненыя, што «ўсё будзе нармальна — электрычнасць да нас як ішла, так і будзе ісці».**

На сённяшні дзень Беларусь набывае ў Літве каля чвэрці ўсёй спажываемай электраэнергіі. Аднак разлічвацца за яе не спяшаецца: толькі за мінулы год літоўскі манапаліст — кампанія *Lietuvos Energija* — паставіла Беларусі электраэнергіі на 89 мільёнаў долараў, а атрымала за яе толькі 2 мільёны.

Па ўмовах кантракта, падпісанага 26 студзеня 1998 года паміж кампаніяй-пастаўшчыком — *Lietuvos Energija*, кампаніяй-спажыўцом — канцэрнам «Белэнерга» і пасрэднікам — кампаніяй *Baltic-SHEM*, *Lietuvos Energija* мусіла пастаўляць у Беларусь электраэнергію, а Беларусь мусіла разлічвацца за пастаўкі таварамі, якія потым будуць прадавацца на літоўскіх рынках кампаніяй *Baltic-SHEM*. Тым не менш з-за завышанага курса беларускага рубля ў дачыненні да долара беларускія тавары атрымліваліся занадта дарагімі і не маглі канкураваць на літоўскім рынку.

З мэтай «выбівання» даўгоў на мінулым тыдні Беларусь наведалі прадстаўнікі *Lietuvos Energija*. Падчас перамоваў беларускі бок выказаў гатоўнасць разлічвацца з Літвой за спажытую энергію. Мінск паабяцаў аддаць усе даўгі да пачатку лета. Беларусь і Літва вызначыліся з адзіным курсам долара, па якім літоўская энергія будзе абменьвацца на беларускія тавары. Беларусь гатовая пастаўляць у Літву будматэрыялы, пад'ёмныя механізмы, трактары, хімічную прадукцыю, шыны і лес. Ніякіх пасрэднікаў пры гэтым не плануецца — *Lietuvos Energija* і «Белэнерга» будуць працаваць «напрамую».

Варта зазначыць, што самі літоўцы прызнаюць нямэтазгоднасць скарачэння паставак электраэнергіі ў Беларусь. Прэм'ер-міністр Літвы Гедымінас Вагнорус заявіў, што такі захад мог бы негатыўна паўплываць на стасункі паміж дзвюма краінамі. А міністр эканомікі Вінцас Бабіліюс зазначыў, што калі ўрад вырашыць увогуле спыніць пастаўку электраэнергіі ў Беларусь, то шараговым літоўцам давядзецца плаціць за электрычнасць больш, а адзін з рэактараў Ігналінскай АЭС будзе спынены.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Будзе індэксацыя

**На мінулым тыдні Савет міністраў Беларусі прыняў пастанову «Аб дадатковых захадах па абароне даходаў насельніцтва ад інфляцыі».**

Дакумент прадугледжвае, пачынаючы з 1 лютага, штомесячную індэксацыю той часткі даходаў насельніцтва, якая не перавышае 5 мільёнаў рублёў. Частка даходаў, якая перавышае 5 мільёнаў, індэксавацца не будзе.

Такім чынам, да заробкаў, стыпендыяў, сацыяльных пенсіяў, дапамогаў па беспрацоўі і інш. будзе дадавацца кампенсацыйная даплата. Памер даплаты за люты пакуль невядомы. Ён будзе вылічвацца на падставе лютаўскага індэксу спажывецкіх цэнаў, які вызначае міністэрства статыстыкі і аналізу на падставе змянення за месяц цэнаў на харчовыя і нехарчовыя тавары, а таксама коштаў платных паслугаў (усяго 343 паказчыкі). Як паведамілі нам у міністэрстве статыстыкі, лютаўскі індэкс спажывецкіх цэнаў стане вядомы толькі недзе 15 сакавіка. Тады ж пачнецца выплата першых індэксацыяў.

Як паведамілі нам у міністэрстве працы, працоўныя пенсіі, у адрозненне ад сацыяльных, не падлягаюць гэтай індэксацыі. Тым не менш, па словах начальніцы аддзела міністэрства працы Тамары Рак, у сакавіку працоўныя пенсіі падвысяцца недзе на 12-13 працэнтаў.

Дакумент Савета міністраў таксама прадугледжвае падвышэнне з 1 лютага кампенсацыяў непрацуючым пенсіянерам, якія атрымоўваюць сацыяльныя пенсіі, а таксама тым грамадзянам, якія не працуюць і даглядаюць інвалідаў 1-й групы альбо асобаў, старэйшых за 80 гадоў. Памер кампенсацыі складзе ажно 250 тысяч рублёў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## НАДВОР'Е

Першая дэкада сакавіка чакаецца вельмі цёплай, з тэмпературай паветра 2—6 градусаў вышэй нуля, а гэта на 7 градусаў вышэй за норму.

Па календары сакавік — першы веснавы месяц, але ў кліматолагаў іншыя меркі. За пачатак вясны яны бяруць час, калі сярэднесутачная тэмпература паветра перавышае 0 градусаў. Гэта звычайна адбываецца на паўднёвым захадзе Беларусі з 13 па 24 сакавіка, а на астатняй тэрыторыі краіны — у апошнія пяць дзён першага веснавога месяца. Так што сакавік — гэта пераходны час ад зімы да вясны.

Звычайная дзённая тэмпература ў сакавіку — +1 — +5, начная — -2 — -8. Але для гэтага месяца характэрнае няўстойлівае надвор'е, як кажуць у народзе, «сакавік часам снегам сее, а часам сонцам грэе». Таму гэты месяц і ставіць тэмпературныя «рэкорды» — напрыклад, у 1972 годзе ў Мінску 12 сакавіка тэрмометры паказвалі 24 градусы марозу, а найхаладнейшым быў сакавік 1964 года: у Міжнародны жаночы дзень тады было 30 з паловай градусаў ніжэй нуля. І ў гэтым жа месяцы надвор'е можа быць зусім летнім: з 18 па 20 сакавіка 1990 года кліматолагі зафіксавалі ў сталіцы Беларусі тэмпературу +16 — +19 градусаў.

Што тычыцца колькасці ападкаў, то тут сіноптыкі не абяцаюць асаблівых сюрпрызаў. У Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях у сакавіку іх чакаецца звычайная колькасць, у Мінскай, Гродзенскай і Брэсцкай — крыху вышэй за норму. (Па статыстыцы, у нас на сакавік прыпадае 13—15 дзён з ападкамі.)

Да ўвагі хворых людзей: неспрыяльныя ў геафізічных адносінах дні — 2, 7, 10, 13, 17, 19, 24 і 28 сакавіка.

*Інжынер-сіноптык Белгідраметцэнтра*
**Вера ЧЫЖЫК**

ІНТЭГРАЦЫЯ

# Мытны саюз наблізіўся да Афганістана

Саміты і паседжанні кіраўнікоў постсавецкіх дзяржаваў, што праходзяць у рамках СНД ці іншых інтэграцыйных структураў, з кожным разам становяцца ўсё менш плённымі. Прэзідэнты рэгулярна збіраюцца, падпісваюць стосы міждзяржаўных пагадненняў, якія потым з-за рознасці інтарэсаў і памкненняў дзяржаваў проста не выконваюцца. Сустрэча кіраўнікоў краінаў т.зв. мытнага саюза, што адбылася ў пятніцу ў Маскве, таксама не стала выключэннем з гэтага правіла.

Галоўным «дасягненнем» гэтай сустрэчы стала далучэнне да дамовы аб мытным саюзе і адзінай эканамічнай прасторы нестабільнага Таджыкістана, які пастаянна ваюе.

Якую карысць з гэтага будуць мець іншыя ўдзельнікі мытнай уніі — Беларусь, Расія, Казахстан і Кыргызстан, — пакуль невядома. Хіба што на шляху таджыкскіх і афганскіх гераінавых караванаў у Эўропу стане менш перашкодаў. Іншага прыбытковага тавару сваім новым партнёрам па мытным саюзе гэты гарачы рэгіён, на жаль, прапанаваць пакуль не можа.

Праўда, у рамках «пяцёркі» быў падпісаны шэраг міждзяржаўных пагадненняў, а таксама прынятая з падачы Нурсултана Назарбаева заява пад гучнай назвай «Аб дзесяці простых кроках насустрач простым людзям», але няма ніякіх гарантыяў, што гэтыя дамовы будуць выконвацца.

Галоўны ж беларускі інтэгратар Лукашэнка наогул застаўся незадаволены вынікамі сустрэчы прэзідэнтаў. На гэтым саміце ён выконваў ролю галоўнага крытыка непаслядоўнасці мытнай «пяцёркі». Нядаўняе ўступленне Кыргызстана ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, па словах Лукашэнкі, *«супярэчыць раней прынятым пагадненням і служыць разбурэнню мытнага саюза»*. Прычым выступаў беларускі прэзідэнт не толькі ад імя сваёй краіны. Напярэдадні сустрэчы «пяцёркі» Рыгоравіч меў працяглую гутарку з расійскім прэм'ерам Яўгенам Прымаковым, падчас якой яны дамовіліся, што крытыкаваць партнёраў па мытным саюзе Лукашэнка будзе як старшыня саюза Беларусі і Расіі. Такім чынам, Масква ў чарговы раз падставіла свайго беларускага хаўрусніка, даручыўшы яму выконваць самую брудную работу. Маўляў, калі Аскар Акаеў і пакрыўдзіцца на крытыку, то Прымакоў заўжды зможа апраўдаць выпады ў бок Кыргызстана звычайнай бестактоўнасцю Аляксандра Лукашэнкі. Увогуле ж падобна на тое, што сама сустрэча кіраўнікоў краінаў мытнага саюза мела для беларускага інтэгратара другасны характар. Ён досыць скептычна ставіцца да любых постсавецкіх міждзяржаўных аб'яднанняў, акрамя расійска-беларускага саюза. Больш важнымі для яго былі сустрэчы з Прымаковым і нямоглым Барысам Ельцыным. Натуральна, падчас гэтых перамоваў галоўнымі былі пытанні, якія тычацца «саюза двух». Па словах Лукашэнкі, ён дамовіўся з прэзідэнтам Расіі праводзіць падобныя сустрэчы штомесяц, а таксама склікаць у сакавіку паседжанне вышэйшага савета іхняга саюза.

Лукашэнка дэманстраваў падкрэслена прыхільныя адносіны да асобы Барыса Ельцына, «прыстойнага і сумленнага палітыка», прэм'ера Яўгена Прымакова, якога ён назваў «сваім настаўнікам». Беларускі прэзідэнт хоча выглядаць сапраўдным суб'ектам расійскай палітыкі, таму ён не мог не выказацца адносна спробаў маскоўскіх інтрыганаў-алігархаў *«сутыкнуць Ельцына і Прымакова лбамі»*. Па словах Лукашэнкі, *«алігархі першымі зграбуць у тым агні, які самі і распальваюць»*.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# На III Усебеларускім фестывалі культураў палякаў не будзе

*Галоўнае праўленне Саюза палякаў на Беларусі накіравала прэзідэнту А.Лукашэнку, прэм'ер-міністру С. Лінгу, а таксама старшыні камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў, міністру адукацыі і навукі і старшыні Гродзенскага аблвыканкама заяву наступнага зместу:*

«На працягу астатніх гадоў мы бачым не толькі нежаданне, але і адкрытае супрацьдзеянне вырашэнню шэрагу праблемаў адраджэння польскай мовы і культуры.

З просьбамі аб вырашэнні гэтых праблемаў мы звяртаемся да органаў улады, адукацыі і культуры на працягу многіх гадоў, але становішча справаў не толькі не паляпшаецца, але і пагаршаецца. Усё гэта не дае нам падставаў для весялосці і не схіляе да ўдзелу ў фестывалі, які ўлады выкарыстоўваюць у прапагандысцкіх мэтах для пацвярджэння тэзіса аб тым, што спакой на Беларусі з'яўляецца вынікам мудрай, узважанай і адказнай нацыянальнай палітыкі ўрада. Рэчаіснасць жа з'яўляецца іншай. Урад Беларусі, ігнаруючы законы рэспублікі, не выконвае прынятых у іх на сябе абавязацельстваў па забеспячэнні правоў палякаў.

Асабліва яскрава гэта бачна на прыкладзе ліквідацыі польскіх класаў і недапушчэнні будаўніцтва польскай школы ў г.Навагрудку.

Як паказала жыццё, такія адносіны да нас нічым не могуць быць апраўданы і з'яўляюцца вынікам працы органаў улады ў адносінах да нас заганнай палітыкі і практыкі камуністычнага мінулага.

У знак пратэсту супраць парушэння органамі ўлады рэспублікі беларускага заканадаўства і правоў палякаў Саюз палякаў на Беларусі вымушаны прыняць рашэнне аб адмове ад удзелу ў III Усебеларускім фестывалі нацыянальных культураў».

***Когда-то, проезжая в членовозе по Белокаменной, союзный премьер Николай Рыжков обратил внимание, что очереди за водкой сравнялись с очередями в Мавзолей. «Что-то неладно», — подумал он и выступил за смягчение алкогольно-торгового режима.***

***А если бы не обратил? Так и остался бы «страшно далеким от народа», как и его патрон Горбачев, ходивший «в народ» регулярно. Правда, в этих хождениях первый президент СССР был до боли похожим на своих преемников, первых президентов независимых государств. Как и они, он всегда видел то, что ему показывали, говорил то, что хотел, и слушал только самого себя. Короче, напоминал токующего глухаря и доtоковался...***

# Кто скажет королю, что народ голый?

## Или изнанка экономического чуда

### Райское прошлое

Но среди всех президентов едва ли не самым талантливым учеником Горбачева оказался Александр Лукашенко. Он тоже может часами и «без бумажки» произносить пламенные речи. Обо всем и ни о чем. О том, что хватит болтать, надо дело делать. С той разницей, что теперь на публику обрушиваются не дерзновенные проекты прорыва в светлое будущее путем ускорения, а всего лишь планы возврата в социализм, райское прошлое всего человечества. И если в первом случае телегу разогнали так, что она покатилась впереди лошади, то во втором загнанную скотину пробуют пинками поднять на ноги.

Попробовали бы овсом или хотя бы дали отдохнуть на заливных лугах, может что и вышло бы. Нет, ей вновь утверждают плановые задания, надувают ее как цыган перед ярмаркой...

Конечно, везде в СНГ, что подтвердило начало текущего года, дела идут неважно. Но только в Беларуси это «надувательство» объявляют экономическим чудом. Поэтому наша страна не уступает никому по темпам инфляции, и за неделю цены увеличиваются в несколько раз быстрее, чем это положено по утвержденной сверху норме. И несмотря на все пинки и уговоры, экономика, как загнанная лошадь, отказывается повиноваться президенту. Чтобы встать с коленей, ей нужен овес, сиречь, инвестиции. До благополучной статистики и якобы стабильного роста ей дела нет. К тому же никто еще не застал лошадь за просмотром теленовостей, и она не ведает, о чем по вечерам так вдохновенно резонирует г-н Зимовский. Но о том, что загнанных лошадей пристреливают, она догадывается всем своим изработанным за долгие годы ливером.

И в этом она похожа на народ, живущий в инстинктивном ожидании катастрофы. Причем, как показывает практика, народ ошибается реже патентованных аналитиков. Так, уже в июле прошлого года, когда о российском обвале никто и не помышлял, население стало активно запасаться товарами длительного пользования (пик пришелся на август) и только затем стало хватать все, что длительному хранению не подлежит.

### На всю жизнь не запасешься

Хотя, понятно, на всю жизнь не нахватаешься. Но и этого кратковременного порыва (деньги у большинства быстро кончились) хватило на то, чтобы белорусское экономическое чудо вывернулось наизнанку. И оказалось, что, несмотря на все уверения, соткано оно из мишуры. То есть публика верила, что у нас, де мол, яйцо «держится» и есть возможность обеспечивать им всех, но вместо привычных «человеческих яиц» получила какие-то мелкие, перепелиные.



А после и пошло... Тех продуктов, которые летучие продотряды конфискуют у горемык-коммерсантов, на всех явно не хватает. Поэтому народ, как в старые времена, перешел на «авосечный» образ жизни. Все, особенно женщины, мечутся по городу в поисках того, что еще выбрасывают. А от «авоськи» до «нехренаськи», известно, один шаг. Ведь уже появились сыры «только для инвалидов».

Это в городах, где бедность внешне не столь очевидна. Да, кое-где сидят нищие, старушки по подземным переходом что-то продают, больше лучок и морковку. Порой в булочной встретишь греющегося стаканом чаю бомжа. Но в деревне, где все у всех на виду, складывается впечатление, началась социальная деградация на почве полной нищеты. Я знаю, например, семью, где на троих взрослых приходится одна пара сапог. Многие, причем не только запойные пьяницы, ходят в каких-то невообразимых лохмотьях. Есть люди, собирающие в качестве подаяния окурки. А при желании практически в любой деревне за пачку «Астры» и бутылку дешевого вина можно нанять натурального батрака. Он, правда, напоминает загнанную лошадь, но под контролем и стимулом на многое способен. Вот такая может выйти эксплуатация человека человеком.

Однако вернемся к нашим экономическим чудесам. А дабы не быть обвиненными в предвзятости, обратимся к официальной статистике. По данным минстата, в третьем квартале реальная заработная плата оставалась на уровне второго, в четвертом квартале уменьшилась на 12,8%, в том числе в декабре по сравнению с декабрем 1997 г. снизилась на 13,5%. Это значит, что наше поступательное движение оказалось возвратно поступательным: целый год нам трубили о росте, который оказался движением по кругу. А при таком варианте толковать о развитии может только человек малограмотный.

### Клонирование

Да и Бог бы с ним, с толковищем. Если кому нравится толочь воду в ступе, то разве можно это запретить в нашей демократической стране. Вот что говорил, например, экономический советник президента РБ Петр Капитула, размышляя, в свое время, о текущих и стратегических задачах: «Стабилизацию нужно закончить к 1996 г., иначе нас никто не поймет». Но и поняли, и вошли в положение. Ведь это только младенцы говорят королям правду. В простоте. А тов. Капитула доктор советских экономических наук.

Но и Александр Лукашенко, хоть и не доктор, но экономист. Поэтому он вторит Капитуле, но, ссылаясь на объективные и прочие трудности, корректирует задачу по срокам. Именно 1999 год должен, по его мнению, стать годом экономической и финансовой стабилизации, то есть трамплином для прыжка. Впрочем, президент РБ мнений не высказывает: чиновникам он раздает приказы, оппозиции — угрозы, а народу — клятвы. Мол, душа вон, если не сделаю. Должно быть у президента душа легко клонируется. Если так, то наша экономика обречена оставаться самой стабилизирующейся в мире. Как кубинская, северокорейская или эфиопско-эритрейская.

Тем более, что недавно на одном из высоких совещаний было сказано, что к 2005 году сельское хозяйство Беларуси должно выйти на среднеевропейский уровень. Ну, раз должно, значит выйдет. И колхозная корова вместо нынешних двух будет давать семь тысяч кг молока. А пока на рубль вложений в сельском хозяйстве приходится менее трех копеек прибыли.

Могут возразить, что у нас стабильно снижается безработица. Но только открытая и официально учитываемая, а реальная, как утверждают ученые (см.: "Зеркало" компании БелаПАН № 5) превышает 32% к экономически активному населению. В этом заключается одна из причин низкой и стабильно снижающейся эффективности производства.

Как говорится, незнание экономических законов не освобождает от ответственности. Или наоборот. Взять хотя бы официальных безработных. Число их невелико, это верно, но еще меньше тех, кто по закону может претендовать на пособия, а еще меньше размер самого установленного законом пособия. То есть, в данном случае, юридический закон опровергает экономический, согласно которому рабочая сила, даже резервная, должна получать достаточно средств для жизни. Но коль не получает, то регистрироваться потерявшему работу нет резона.

Отсюда проистекает официальное благополучие. КЗОТ устанавливает, что заработная плата выплачивается регулярно и не реже одного раза в месяц, но многие работадатели, особенно колхозы и совхозы, этого не делают. И поэтому в расчеты показателей уровня жизни закладываются не просто «пустые деньги», а «деньги-призраки». Но зато все знают, что в Беларуси зарплаты выплачиваются стабильно.

Но кто скажет королю, что народ голый?

**Константин СКУРАТОВИЧ**

ГЕАПАЛІТЫКА

# Урокі Косава

Існуе вельмі вядомы здымак: задаволены Гітлер аглядае з акна Каралеўскага замка на Градчанах захопленую ім Прагу. У 1938-39 гадах Чэхаславакія і Польшча марна чакалі дапамогі ад англа-французскіх хаўруснікаў. Не дачакаліся і пасля вайны англа-амерыканскага дэсанту, на што шмат хто спадзяваўся, засталіся пад сталінскім ботам.

Цяпер у адзін і той жа час два прэзідэнты — Вацлаў Гавэл на тых самых Градчанах і Аляксандр Квасьнеўскі у сваім прэзідэнцкім палацы ў Варшаве падпісалі 26 лютага трактат аб далучэнні іхніх краінаў да *NATO*. Прэзідэнт Венгрыі Арпад Гэнч падпісаў такі самы дакумент яшчэ 10 лютага. Афіцыйна з 12 сакавіка гэтыя тры краіны будуць ужо ў складзе Паўночна-Атлантычнага альянсу, пад яго абаронай.

Вельмі дарэчы А.Лукашэнка выказаўся пра сваю настальгію па ядзерных ракетах у адзін дзень з арыштам у Мінску Цэнтрвыбаркама. Гэта прымусіла адрэагаваць на абедзве падзеі польскага прэм'ера Е.Бузэка, які знаходзіўся з візітам у Кіеве. Ён сказаў, што палякі і ўкраінцы афіцыйна выкажуць сваё незадавальненне. Беларускае пытанне на перамовах у Кіеве таксама абмяркоўвалася, зазначыў кіраўнік польскага ўрада.

Калі ў канцы 1996 г. апошнія ядзерныя ракеты былі вывезены з Лідскага раёна ў Расію, расіяне падарылі Лукашэнку макет такой ракеты. І вось са здзіўленнем чытаю ў адной беларускай дзяржаўнай газеце, як карэспандэнт праліваў кракадзілавыя слёзы з прычыны таго, што бедная расійская армія за ўвесь мінулы год не здолела набыць ні аднаго новага танка або самалёта, не кажучы ўжо пра ядзерныя ракеты. А якія ж класныя ракеты ўмеюць вырабляць у Расіі! — захапляецца журналіст. Узяць, напрыклад, «Сатану»(СС-20 ці 22), адна можа знішчыць цэлы горад...

Не дае спакою мінскім гаварунам і слова «Косава». Прынамсі, аднаму з іх. Наш прэзідэнт мае на тэлебачанні свайго *alter ego*, які кожную нядзелю прамывае мазгі гледачам, выступаючы ў якасці тлумачальніка ўсіх самых нечаканых ідэяў «бацькі». Апошнім разам ён зноў страшыў, што ў нас у Гродне розныя апазіцыянеры прагнуць стварыць «Косава» (на ўзор албанска-сербскага). Заяўляюць, маўляў, беластоцкаму радыё, што ў Беларусі 1,5 мільёна палякаў, а не 413 тысяч — як паводле афіцыйных дадзеных.

Пачакаем, што пакажа цяперашні перапіс. Ва ўмовах, калі ў нас мноства змешаных каталіцка-праваслаўных сем'яў, дзеці ад большасці такіх шлюбаў маглі запісацца палякамі. Бо быць палякам — значыцца адчуваць сваю абароненасць (Польшча — ужо амаль у *NATO*). А вось беларусам быць нават за гады існавання РБ так і не стала гонарам. Больш за тое, з увагі на паводзіны «бацькі народа» быць беларусам часта бывае, на жаль, проста сорамна.

Хацелася б яшчэ нагадаць «бацькавым» ідэолагам, што такое Косава. Гэта — мястэчка ў Івацэвіцкім раёне, якое існуе з 1494 года. Яно вядомае дзвюма падзеямі. «Косаўскім расстрэлам» 1927 года, калі паўтары тысячы сялянаў выйшлі на дэманстрацыю ў абарону Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Дэманстранты неслі транспаранты з надпісамі — «Вызваліць рабоча-сялянскіх дэпутатаў, вызваліць усіх палітзняволеных!», «Далоў фашысцкую дыктатуру Пілсудскага!» Адчуваеце сугучнасць з сённяшнім днём? З энцыклапедыяў вядомы таксама «Косаўскі бой» 1942 года, калі партызаны разбілі нямецкі гарнізон і цэлы месяц потым кантралявалі Косава. Нарэшце каля Косава знаходзяцца падмуркі Мерачоўшчыны — сядзібы Тадэвуша Касцюшкі, як вядома — кіраўніка вызваленчага паўстання.

Так што лепей бы нашы ўлады не абвінавачвалі кагосьці ў стварэнні на Гродзеншчыне «балканскага Косава», а ўспомнілі пра ўрокі Косава, якое ёсць у Брэсцкай вобласці. Больш карысці.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

АСВЕТА

# «Экзатычная нацыя»

«Саветнік культуры Пасольства Францыі на Беларусі граф Талстой Аляксандр Мсціслававіч, папрацаваўшы некаторы час у Беларусі, сказаў у інтэрв'ю журналісту «Камсамолкі» вельмі крыўдную для нас, але вельмі слушную фразу: *«Беларусы относятся к группе экзотических наций, у которых ослаблена воля к созданию собственной государственности...»* Менавіта нацыянальная школа магла б дапамагчы нам, беларусам, пазбавіцца гэтага крыўднага статусу. Так пачалася наша размова з дырэктарам мінскай агульнаадукацыйнай школы № 2, віцэ-прэзідэнтам Рэспубліканскага Таварыства беларускай школы Аляксандрам Генадзевічам Сядзякам.

*— Аляксандр Генадзевіч, як пачувае сябе беларускамоўная школа ў рускамоўным асяроддзі Мінска? Чым адрозніваюцца вашыя выхаванцы ад сваіх равеснікаў са школ з рускамоўным навучаннем?*

— Думаю, што нармальна, нягледзячы на тое, што каля 80% сем'яў нашых вучняў размаўляюць па-руску. Мудрыя былі старажытныя рымляне, якія казалі: «Колькі моваў ты ведаеш, столькі ты і чалавек...» Але ж родная мова — мова найпершая. На жаль, такая спецыфіка нашай краіны — веданне чужых моваў суправаджаецца няведаннем роднай. Беларусам бракуе тых якасцяў, якія ёсць у кожнага этнасу, — любові да Бацькаўшчыны, да сваіх продкаў, роднай мовы, культуры і гісторыі... Урэшце гэта адбілася і на эканамічным стане краіны. Калі ў чалавека ёсць пачуццё уласнай годнасці, ён не дапусціць сябе да такога прыніжанага стану, у якім апынулася большасць нашых людзей сёння. Толькі ў беларускай нацыянальнай школе можна ўзгадваць сёння гэтае пачуццё.

Я бачу гэта на сваіх вучнях. У іх раней, чым у равеснікаў з рускамоўных школ і класаў,



прачынаецца пачуццё любові да Радзімы і ўсведамленне свайго грамадзянскага абавязку. Яны развіваюцца больш натуральна і гарманічна. У 1998 годзе Таварыства беларускай школы праводзіла рэспубліканскі конкурс сачыненняў «Не пакідайце мовы нашай беларускай», у якім прынялі ўдзел больш тысячы вучняў 4—11 класаў. Нашае журы атрымала вялікае задавальненне, калі знаёмілася з лістамі юных беларусаў. Колькі ў іх было болю, слушных развагаў пра лёс Бацькаўшчыны! Былі сачыненні ў форме малітвы — усё гэта ішло не толькі праз свядомасць, а і праз сэрца...

*— Ці патрэбная, на вашую думку, рэформа школы і што трэба рэфармаваць?*

— Рэформа, вядома ж, патрэбная, але іншая справа — якая? На мой погляд, трэба ў першую чаргу перагледзець вучэбныя праграмы. 30—50% ведаў, якія яны прапануюць, вучань не ў стане засвоіць. Праграмы варта спрасціць, зрабіўшы іх больш практычнымі і менш навуковымі. Рэфармаваную школу я ўяўляю больш гуманітарнай, здольнай станоўча ўплываць на светапогляд дзіцяці, ягоны ўнутраны свет. І, вядома ж, нацыянальнай. А гэта пытанне не міністэрства адукацыі, а палітыкі нашай дзяржавы. У сучаснага вучня сёння няма адчування неабходнасці добра вучыцца. Гэта ўжо, відаць, не педагагічнае пытанне, а праблема сістэмы каштоўнасцяў, што існуе ў нашым грамадстве. Развітая інтэлектуальная асоба, прафесіянал сваёй справы ў нашай дзяржаве не заахвочваецца. Прэстыж ведаў і культуры нізкі. Нізкі ён і ў чыноўнікаў, тых, хто сёння пры ўладзе. Паслухаеш часам выступленне па Беларускім тэлебачанні прамову нейкага высокага начальніка, які, бывае, і двух словаў пісьменна сказаць не можа, і так сумна робіцца на душы... Мы мелі магчымасці, ды дрэнна іх скарысталі. Атрымаўшы незалежнасць, нашыя суседзі — прыбалты і ўкраінцы — пачалі пабудову свайго нацыянальнага дома з нацыянальнай сістэмы адукацыі. Я ўжо не кажу пра краіны Заходняй Еўропы, якія ніколі не бачылі нейкай праблемы. Відаць, беларусы — сапраўды экзатычная нацыя...

*— У чым вы бачыце вытокі гэткай «экзотыкі»?*

— Каб зразумець гэта, варта зазірнуць у недалёкую гісторыю. У вытокаў Беларускай Народнай Рэспублікі стаялі беларусы — Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўскі, браты Луцкевічы... А сярод стваральнікаў БССР — Ландэр, Фрунзе, Мяснікян, Кнорын... Той жа Кнорын пісаў у лісце да Леніна, што беларускай нацыі не існуе, а беларуская мова — дыялект вялікарасійскай мовы... На жаль, і сёння мы ў палоне ўсё гэтай жа «экзотыкі»... Многія настаўнікі цяпер пакідаюць школу. Але адданыя сваёй прафесіі застаюцца. Бо разумеюць значнасць той справы, якой займаюцца. Вельмі хочацца, каб нашыя вучні жылі лепей, чым жывем мы — у незалежнай і свабоднай Беларусі.

**Святлана АЛЕКСАНДРОВІЧ**

# Даты і лёсы

## 2 сакавіка

**1859.** Нарадзіўся класік габрэйскай літаратуры Шалом-Алейхем (пісаў на рускай мове, ідыш і іўрыце).

**1919.** Пачаўся Першы (установчы) кангрэс Камуністычнага Інтэрнацыянала. Стварэнне Камінтэрна пазначыла канчатковы разрыў бальшавікоў з сацыял-дэмакратыяй. Праз некалькі дзён і назва партыі была зменена з РСДРП на РКП(б).

**1942.** Нацысты расстралялі ў Мінскім гета больш за 1.500 старых, жанчын і дзяцей. Каля 3.500 мужчын-габрэяў былі вывезеныя з гета і забітыя блізу станцыі Койданава.

**1949.** Экіпаж амерыканскага самалёта В-50 «Шчаслівая пані-ІІ» на чале з Джэймсам Галахерам здзейсніў першы беспасадкавы палёт вакол свету (37.742 км. за 94 гадзіны).

**1962.** Амерыканскі баскетбаліст Ўілт Чэмберлен набраў за адну гульню для сваёй каманды 100 ачкоў (забіў 36 мячоў падчас гульні і 28 штрафных). Рэкорд трымаецца да гэтага часу.

**1969.** Кітайскія войскі захапілі на рацэ Усуры савецкі востраў Даманскі (загінулі 30 савецкіх пагранічнікаў). Каб скасаваць прычыну тэрытарыяльных спрэчак, СССР знішчыў востраў з дапамогай артылерыі і авіяцыі.

**1977.** Кіраўнікі камуністаў Італіі, Іспаніі і Францыі на нарадзе ў Мадрыдзе заснавалі канцэпцыю «еўракамунізму» — поўнай або частковай незалежнасці ад палітыкі СССР.

**1992.** Пачалася грамадзянская вайна ў Босніі.

**1994.** Вярхоўны Савет прагаласаваў за прэзідэнцкую форму кіравання ў Беларусі. Супраць выказаліся 14 дэпутатаў. Апазіцыя ў галасаванні не ўдзельнічала.

## 3 сакавіка

**1895.** Гарадскія ўлады Мюнхена загадалі ўсім уладальнікам ровараў здаць іспыт па правілах дарожнага руху і начапіць зарэгістраваную таблічку з нумарам на свайго «жалезнага каня».

**1917.** Часовы ўрад Расіі ўрачыста абвесціў пра скасаванне ўсіх саслоўных, рэлігійных і нацыянальных абмежаванняў у правах грамадзянаў. У той жа дзень у Кіеве была створаная Украінская Цэнтральная Рада, якая аб'яднала галоўныя ўкраінскія палітычныя партыі вакол ідэі суверэнітэту.

**1924.** Турэцкі парламент адхіліў ад улады халіфа Абдул-Меджыда і абвесціў краіну свецкай рэспублікай.

**1944.** У Вільні быў забіты невядомымі Францішак Аляхновіч, рэдактар газеты «Беларускі голас», аўтар кнігі «У кіпцюрах ГПУ» і шэрагу п'есаў, апошняя з якіх мела прарочую назву «Круці не круці — трэба памярці».

**1974.** 346 чалавек загінулі ў выніку разгерметызацыі і падзення блізу Парыжа турэцкага лайнера ДС-10. Пажару не было: хуткасць сутыкнення з зямлёй была такой высокай, што самалёт з пасажыраміператвараўся ў пыл.

**1992.** Пачаліся баі паміж малдоўскімі ўладамі і рускімі сепаратыстамі, што стварылі Прыднястроўскую рэспубліку (яе кіраўнікі запалохалі народ магчымым аб'яднаннем Малдовы з Румыніяй).

## 4 сакавіка

***Дзень св.Казіміра, нябеснага заступніка Вільні і ўсяго Вялікага Княства Літоўскага.***

**1634.** Нарадзіўся Казімір Лышчынскі, аўтар філасофскага трактата «Пра неіснаванне Бога». Былы езуіт, а потым падсудак брэсцкі меркаваў, што Бога стварылі (прыдумалі сабе) самі людзі. Па прысудзе Варшаўскага сейма быў пакараны смерцю на вогнішчы.

**1789.** У Нью-Йорку на сваё першае паседжанне сабраўся Кангрэс ЗША.

**1906.** Царскі ўрад дазволіў рабочым ствараць прафсаюзы.

**1924.** Клейтан Самі апублікаваў сваю знакамітую мелодыю *Happy Birthday to You*.

**1964.** Былая брытанская калонія Мальта атрымала незалежнасць.

**1977.** У выніку найбольш жахлівага ў гісторыі Румыніі землятрусу загінулі 15 тыс. чалавек. У Бухарэсце разваліліся 35 шматпавярховых дамоў. На працягу тыдня горад знаходзіўся на ваенным становішчы. Падземныя штуршкі адчуваліся амаль ва ўсёй Еўропе, у тым ліку ў Беларусі.

**1987.** Англічанін Дэвід Купар паспяхова здаў іспыт на правы кіроўцы аўтатранспарту ў рэкордным узросце 89 гадоў і 2 месяцы.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 516 Нумар падпісаны ў друк 01/03/99 (15:00) Наклад — 17.450
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі